 

# Ніва

ISSN 0546—1966
ІНДЭКС 36671

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 31 (1577) ГОД XXXI БЕЛАСТОК 3 ЖНІЎНЯ 1986 г. ЦАНА 10 зл.

## ЦІКАВА І АДКРЫЎЧА

У днях 1-5 ліпеня г.г. у Філіяле Варшаўскага універсітэта ў Беластоку праходзіла Міжнародная канферэнцыя на тэму: „Моўная разнастайнасць Паўночна-Усходняй Польшчы (Геаграфія і метадалогія)". Арганізавала яе некалькі навуковых установ: Кабінет мовазнаўства Інстытута польскай мовы Польскай акадэміі навук, Філіял Варшаўскага універсітэта ў Беластоку, Мовазнаўчая камісія Мазавецкага асяродка навуковых даследаванняў. Мовазнаўчая камісія Беластоцкага навуковага таварыства і Таварыства культуры мовы. У працах канферэнцыі ўдзельнічала каля 80 чалавек (мовазнаўцы, гісторыкі, этнографы) з розных навуковых цэнтраў Польшчы, між іншым з Кракаўскага, Варшаўскага, Лодзінскага, Познаньскага, Шчэцінскага універсітэтаў, Філіяла Варшаўскага універсітэта ў Беластоку, Інстытута мастацтва і Інстытута славяназнаўства Польскай акадэміі навук і іншых. Прыбылі такама вучоныя з Беларускай ССР, Чэхаславакіі, Югаславіі.

Канферэнцыю адкрыў і прывітаў гасцей ваявода беластоцкі Мар'ян Гала.

Кожны дзень працы канферэнцыі быў прысвечаны іншаму комплексу праблем.

Першага дня ўдзельнікі канферэнцыі ўшанавалі памяць двох выдатных польскіх мовазнаўцаў Вітальда Дарашэўскага і Мечыслава Шымчака, былі зачытаны даклады пра іх навуковую і грамадскую дзейнасць.

Другі дзень быў прысвечаны тэме: „Разнароднасць польскіх гаворак у Паўночна-Усходнім рэгіёне". З дакладамі выступілі: Б. Фалінская — „Даследаванні польскіх гаворак у Паўночна-Усходнім рэгіёне", Г. Сэндзякова — „Сувязнасць дзеясловаў руху ў ломжынскай гаворцы і сучаснай літаратурнай мове". Два наступныя даклады былі прысвечаны рэгіянальным асаблівасцям мовы жыхароў Беластока і Саколак: П. Врублеўскі прадставіў даклад „Беластоцкія рэгіяналізмы", а В. Нававейскі — „Мова жыхароў Саколкі". Затым М. Юркоўскі пазнаёміў з даследаваннямі імёнаў, прозвішчаў, назваў, якія на Беласточчыне праводзіліся ў мінулым і вядуцца цяпер, а Я. Глушкоўская пазнаёміла з працамі над мясцовымі назвамі былога Бела-

(Працяг на стар. 5)



Звітныя рукі прадзільшчыцы Анны Казарэз маланкава ловяць ніткі. Яна належыць да маладога пакалення „сяржанцаў" — працуе ўсяго... восем год.

## З ДУХАМ ЧАСУ

Беласток, вуліца Аўгустоўская № 6. Пад гэтым адрасам знаходзіцца Беластоцкае прадпрыемства ваўнянай прамысловасці імя дырэктара Сяржана. Сваімі тэкстыльнымі вырабамі вядомае яно ў Польшчы і ў іншых краінах, у якія экспартуе сваю прадукцыю. Асартымент яе цікавы: пледы, тканіны — касцюмныя, плашчавыя, абіўныя.

Перад IX з'ездам ПАРП працавала ў прадпрыемстве 2200 чалавек. У той час, хаця планавыя заданні і выконваліся, але прадукцыйнасць працы была нізкая. Фабрыкі прадпрыемства працавалі на ўстарэлай тэхніцы, якая не давала магчымасці павышаць колькасці і якасці прадукцыі. Неабходна было ўзяцца за рэканструкцыю і мадэрнізацыю прадпрыемства, за новую тэхналогію.

Ідэі IX Надзвычайнага з'езда партыі ўзмоцнілі гэтыя намеры, ды натхнілі новымі — гаспадарчай рэформай. Але ажыццяўляць гэта было заданнем няпростым.

— Каб справіцца з усімі складанымі праблемамі, — гаворыць сакратар партыйнага камітэта прадпрыемства Стэфан Баўэр, — патрэбны былі: смеласць, настойлівасць і нават рызыка. І найбольш гэтага было ў галоўнага дырэктара Генрыка Гатавіцкага, які ведаў добра прадпрыемства, бо сам пачынаў тут працу рабочым. Як наступалі пераўтварэнні ў прадпрыемстве — гэта аддзельная тэма. Але нават сухія факты самі за сябе гавораць. А вось яны. На Аўгустоўскай вуліцы збудавалі новую, сучасную прадзільню і змадэрнізавалі выканчальню. Пабудавалі новую фарбавальню на месцы старой, а дакладней кажучы, старая была абудавана новаю, так што ўвесь час старая

(Працяг на стар. 6.)

## З ПАЧЧУЦЦЁМ АБАВЯЗКУ

Ініцыятыва выйшла ад групы гайнаўскай інтэлігенцыі, згуртаванай пры Гайнаўскім доме культуры, гарадскога гуртка БГКТ і Беларускага ліцэя. У пачатку дарогі стаяла творчае імкненне людзей і ўнутраная патрэба стварэння. У практыцы ініцыятыўную групу склала пяцёрка: Мікалай Бушко, Аляксандр Лукашук, Сяргей Харкевіч, Аляксандр Іванюк, Аляксандр Крутэль. Справа набірала размаху, станавілася фактам і мела імя: х а р а в ы к а л е к т ы ў. Першая рэпетыцыя пачалася з шасцёркай мужчын. Дырыжор памятае іх імёны: Пеця Шварц, Мікола Бушко, Вася Андрэюк, Янка Якімюк, Валодзя Мінько, Алёша Харкевіч. Адбылася ж першая рэпетыцыя ў сенакосы, 16 чэрвеня 1982 года ў Беларускім ліцэі. Першае выступленне хутка растучага хору было ў горадзе на гадавіну Кастрычніцкай рэвалюцыі, а потым на Першамай. І так паплыло поўнае напружанай працы і дысцыпліны жыццё Гайнаўскага хору. Хутка стаўся ён інтэгральнай часткай грамадска-культурнага жыцця горада, адным з важных дасягненняў гэтага пушчанска-рабочага цэнтра Беласточчыны.

З хорам ад пачатку працуе магістр Аляксандр Лукашук — выхаванак Дзяржаўнай вышэйшай музычнай школы (цяпер Музычная акадэмія) у Варшаве.

— Колькі слухала я вас, чула выключна вялікае багацце беларускіх песень. Дазвольце сказаць, што для беларускай грамадскасці наш беларускі рэпертуар — гэта духоўная раскоша... Хто вашы харысты?

— Найбольш настаўнікаў, на другім месцы — працаўнікі гандлю і паслуг, амаль усе з сярэдняй адукацыяй. Абсалютная большасць — 30-40-годкі.

— У вас цяпер хор 40-асабовы. Гэта даволі, ці маеце іншыя намеры?

— Хачу, каб ён рос на вялікі хор.

— Кожны калектыў хоча быць добрым, найлепшым. Гэта натуральна. Але гэта залежыць у многім ад кіраўніка. Важна мець добрага дырыжора.

— Дасягненні залежаць не толькі ад дырыжора, але і ад калектыву. У нас харысты растуць падчас працы. Праца ў калектыве правярае людзей, дае ім задавальненне. Вялікую ролю ў нашым хоры адыгрывае дырэктар Мікалай Бушко. Гэта чалавек, які выказвае многа добрай волі. Ён жыве калектывам

(Працяг на стар. 2)

УВАГА: ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ — РАСКЛАД ПКС З САКОЛКІ

 

(Працяг са стар. 1)

# З ПАЧУЦЦЁМ АБАВЯЗКУ

не менш, чым я. Але і кожны харыст гэтым жыве, нашымі супольнымі поспехамі і няўдачамі. А рэпетыцыі ў нас раз у тыдзень. Па тры гадзіны — гэта найменш. Часта бывае больш. Бываюць рэпетыцыі і па некалькі разоў у тыдзень. Працуем асобна з мужчынскай і асобна з жаночай групай. Працуем над голасам, над дыкцыяй.

— Куды сягаеце? Ці можа да прафесіянальнага калектыву?

— Я з вамі нязгодны. Мы пераацэньваем свае калектывы. Я згодны з тым, што ёсць за што калектывы хваліць: за працу, ахвярнасць, заангажаванне. Але ў працы калектываў мусім пастаянна павышаць патрабаванні ў сэнсе ўзроўню. Мяне не задавальняе, што калектыў у конкурсе заняў першае месца. Хачу, каб аб нашай музычнай культуры гаварылі і недзе далёка ў Польшчы. На Беласточчыне ёсць някепскія калектывы. Я лічу, што ўзровень нашых калектываў павінен быць вышэйшы, павінен расці! І не дзяліць калектывы на прафесіянальныя і аматарскія. Аматарскія калектывы часта бываюць цікавейшыя, чым прафесіянальныя. Трэба так працаваць, каб людзі мелі задавальненне з таго, што робяць.

— У вас жаночая і мужчынская групы часта выступаюць самастойна. На колькі галасоў?

— Жанчыны спяваюць на тры галасы — І і ІІ сапрана і альт, мужчыны — на чатыры — І і ІІ тэнар, І і ІІ бас.

— Прабачце за цікаўнасць, Мікалай Бушко якім спявае?

— Першым басам, у яго барытон.

— А Янка Якімюк?

— Першы тэнар, вядучы. Хлопец вельмі адданы калектыву, працавіты, заангажаваны і здольны.

— Харысты — людзі вёскі ці горада?

— Пераважна вёскі.

— Ці горад не любіць спяваць, ці не ўмее?

— Наша вёска мае традыцыю і ўнутраную патрэбу спявання.

— Як бачыце вашу ролю ў асяроддзі?

— Справа функцыі — гэта заспакойванне эстэтычных і музычных патрэб і харыстаў, і слухачоў. Мы — спецыфічны калектыў. бо стараемся заспакойваць гэтыя патрэбы ў беларускім асяроддзі.

— Ёсць такая свядомасць?

— Ёсць свядомасць сваёй ролі і працы. Сваю спадчыну павінны мы захоўваць у разнароднай дзейнасці. Хор гэта робіць у адносінах да таго, што вельмі каштоўнае ў рэгіёне — музыка і песня, і добры звычай спявання. Маем свядомасць гэтакай працы. Чаму ў нас павінен быць высокі ўзровень? А таму, што справа датычыць нацыянальнай свядомасці. Хтосьці, хто хоча застацца беларусам, — якія ж ён мае ўмовы, каб ім быць. Мы самі павінны гэтыя ўмовы сабе ствараць! Патрэбна самасвядомасць, каб ствараць сабе ўмовы культурнага жыцця. У тым і роля калектыву. Гэта таксама абавязак нашай інтэлігенцыі. Інтэлігент мае такі абавязак перад народам. І я, калі лічыць мяне інтэлігентам, мушу старацца гэты абавязак выконваць.

— Ці многа залежыць у гэтай працы ад людзей, з якімі працуецца?

— Гайнаўка — не першы мой калектыў. Даўно таму быў вясковы калектыў Кошкі-Грэдалі, на самым пачатку свайго існавання былі і бельскія „Васілёчкі", тады яшчэ без назвы. Гайнаў-

(Працяг на стар. 4)

# ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ

## МІЖНАРОДНАЯ ШКОЛА-СЕМІНАР

Дзесяць дзён у Мінску пры навукова-даследчым Інстытуце цепла- і масаабмену АН БССР праходзіла міжнародная школа-семінар „Сучасныя праблемы цепла- і масаабмену ў хімічнай тэхналогіі". Яна была арганізавана Міжнародным цэнтрам акадэміі навук сацыялістычных краін для павышэння кваліфікацыі навуковых кадраў.

Трыццаць трэці раз з моманту арганізацыі ў 1973 годзе Міжнароднага цэнтра сабраліся ў Мінску вучоныя з 20 гарадоў Савецкага Саюза, а таксама акадэмій навук Балгарыі, Венгрыі, Польшчы, Чэхаславакіі, Германскай Дэмакратычнай Рэспублікі. Тэматыка школы-семінара ўключала шырокае кола пытанняў, якія тычацца выкарыстання працэсаў цепламасапераносу ў адной з сучасных галін прамысловасці — хімічнай.

Удзельнікі семінара мелі вялікія магчымасці для абмеркавання новых ідэй, абмену вопытам, устанаўлення навуковых сувязей са сваімі калегамі. Былі разгледжаны пытанні як тэарэтычныя, так і практычнага характару.

З лекцыямі і дакладамі выступілі вядучыя савецкія і замежныя вучоныя: член-карэспандэнт АН СССР В. Малюсаў, прафесары В. Цвік з ГДР, Р. Пахарэцкі з ПНР, Я. Чэрмак з ЧССР і іншыя.

Міжнародная школа-семінар, на думку яе ўдзельнікаў паказала яшчэ раз дзейнасць сацыялістычнай інтэграцыі на прыкладзе развіцця адной з канкрэтных галін навукі.

## ВЫРАСЛА Ў ПАСЁЛАК

У цэнтральную сядзібу ўзбуйненага калгаса „Звязда" Ваўкавыскага раёна ператварылася вёсачка Няверавічы. За кароткі час на яе месцы вырас добраўпарадкаваны пасёлак, названы Юбілейным. Больш пяцідзесяці сем'яў механізатараў, жывёлаводаў, спецыялістаў пасяліліся ў дамах з камунальнымі выгодамі і падвор'ем. Непадалёку — дзіцячы сад, гандлёвы цэнтр з магазінамі і сталовай. Адкрыты лазнепральны камбінат, паслугамі якога пачалі карыстацца і жыхары суседніх вёсак.

Прыток маладых кадраў адкрыў магчымасці для пашырэння інтэнсіфікацыі вытворчасці. Побач з хутка растучым пасёлкам абсталяваны майстэрня для рамонту тэхнікі, аўтамабільныя гаражы, навесы для камбайнаў. Пабудаваны жывёлагадоўчы комплекс, на якім уведзена паточна-цэхавая сістэма вытворчасці малака.

Такая комплексная сацыяльная пабудова мае важнае значэнне для рэспублікі, дзе прыкладна палавіна сельскага насельніцтва жыве ў малых і аддаленых вёсках.

У бягучай пяцігодцы ў параўнанні з папярэдняй удвая павялічыцца аб'ём будаўніцтва на вёсцы жылля, клубаў і Дамоў культуры. Значна пашырыцца сетка школ, прадугледжана ў асноўным вырашыць праблему забеспячэння яслямі-садамі дзіцячымі садамі.

## ТКАНІНА З... МУЗЫКІ

Нават самая багатая фантазія не змагла б падказаць „каралю вальса" Іагану Штраусу, што яго творы паслужаць стварэнню... новых тканін.

І тым не менш гэта так — мелодыі вялікага аўстрыйскага кампазітара „малююць" узор новага палатна. Зрабіць гэта ўдалося пры дапамозе прыстасавання, сканструяванага супрацоўнікамі кафедры тэхналогіі трыкатажнай вытворчасці Віцебскага тэхналагічнага інстытута лёгкай прамысловасці.

Пры вытворчасці трыкатажу для надання пражы розных уласцівасцей шырока выкарыстоўваецца меланж — метад, пры якім змешваюцца валокны рознага колеру або натуральныя ніці са штучнымі. Ёсць прыстаўкі, якія фарміруюць каляровую сыравіну ў зададзены малюнак. Аднак яны даволі складаныя і дарагія. Але галоўны іх недахоп: тканіна ідзе з адным і тым жа ўзорам.

Віцебскія даследчыкі даручылі гукавым хвалям рэгуляваць частату ваганняў удасканаленых механічных прыстасаванняў для меланжыравання. Пад мелодыю каляровыя ніці сплятаюцца ва ўзоры.

# НА ЗАХАДЗЕ БЕЗ ПЕРАМЕН

## ПАРАСОНАМАНІЯ

Ці то пад гіпнозам невычарпальных магчымасцей навукова-тэхнічнага прагрэсу, ці то ад заалагічнага страху перад будучыняй, альбо ў выніку ўнутраных непарадкаў і катаклізмаў, а хутчэй за ўсё ў выніку спалучанага дзеяння гэтых фактараў на Захадзе з'явілася новая хвароба — парасонаманія.

Пры захворванні парасонаманіяй пашкоджваюцца псіхіка, палітычная свядомасць, здаровыя маральныя асновы і жыццёвы стан чалавека. Усё гэта адмоўна ўплывае на яго разважанні і практычныя дзеянні. Адгэтуль і складанасць дыягностыкі, а таксама лячэння парасонаманіі.

Першым яркім сімптомам захворвання з'явілася канструяванне ў Пентагоне „атамнага парасона" для прыкрыцця Заходняй Еўропы.

Заакіянскія „міратворцы", паражоныя імперскай паранояй і апантаныя месіянскім прадвызначэннем ЗША, працягваюць сутаргава начыняць арсеналы НАТО смяротнай зброяй. Яны плануюць паставіць краінам Заходняй Еўропы 90 адзінак боегаловак для ракет „Першынг", 500 боезарадаў для крылатых ракет вялікай дальнасці наземнага базіравання, 300 нейтронных боегаловак для ракет „Лакс", 3200 нейтронных артснарадаў для гаўбіц 203,2 і 155-мм, да 3000 адзінак авіябомб МК-61. Усяго янкі маюць намер „ашчасліўціць" Еўропу на 7000 новых ядзерных баявых адзінак.

Як бачым „атамны парасон" для Заходняй Еўропы набывае такія абрысы, што любы чалавек, не пазбаўлены здаровага розуму, ва ўсім злавесным размаху ўяўляе яго катастрафічны вынікі.

Не паспеў яшчэ гэты пачварны „атамны парасон" набыць свае канчатковыя формы, як парасонаманы заявілі на ўвесь свет аб неабходнасці стварэння больш сучаснага „касмічнага парасона", які па іх драпежнай задумцы, павінен вісець над усёй планетай. І вось у сакавіку 1983 года амерыканскі прэзідэнт абнародаваў „стратэгічную абаронную ініцыятыву" (САІ). Канкрэтнае ўвасабленне САІ — гэта падрыхтоўка да „зорных войнаў". Аўтары брашуры „Касмічная прастора — амерыканская граніца для росту, лідэрства і свабоды", выдадзенай пад патранатам авіяцыйнага і касмічнага канцэрна „Ракуэл інтэрнэшнл", прадракаюць, што „акупацыя касмічнай прасторы з дапамогай касмічных станцый, начыненых лазернай зброяй, забяспечыць непасрэднае і надзейнае панаванне і кантроль над усімі ваеннымі сіламі".

Цяпер няцяжка зразумець кожнаму, што імперыялістычная ідэя аб сусветным панаванні і з'яўляецца галоўнай прычынай і магутным стымулятарам вашынгтонскай зорказаваннай парасонаманіі, якая ўяўляе для чалавецтва смяротную небяспеку.

Парасонаманіяй, як бачым, захворваюць тыя, хто стаіць ля вытокаў знешняй палітыкі імперыялістычных дзяржаў, вытворцы атамнай смерці і верныя ахоўнікі яе арсеналаў. Яе вірус атручвае свядомасць буржуазных палітолагаў і прапагандыстаў, функцыянераў буржуазнай прэсы і носьбітаў буржуазнай „масавай культуры", асоб з прафесарскімі дыпломамі і надзеленых статусам дыпламата — словам, любога, хто абслугоўвае патрэбы ваеннапрамысловага комплексу і выконвае яго сацыяльны заказ.

А. Д.



Гайнаўскі беларускі хор падчас выступленняў на Свяце беларускай культуры ў Беластоку 15 чэрвеня 1986 г. Фота С. Грынявіцкага.

(Працяг са стар. 2)

# З ПАЧУЦЦЁМ АБАВЯЗКУ

ка не першы, але хіба апошні мой калектыў, бо з ім мне найлепш працуецца.

— Ці да канца жыцця хочаце з ім працаваць?

— Хачу. І справа яшчэ ў тым, каб не быць такім, як іншыя. Праца — гэта шуканне ўласнага аблічча, уласнай дарогі, люблю харавую музыку і памагае мне вера, што ёсць людзі, якія таксама яе любяць.

— А ці любіце вы Моцарта?

— (задумліва). Мне Шапэн падабаецца. А каб быць шчырым да канца — мне падабаецца хор!

— Думаеце называць ваш хор?

— Думаем. Але лічым, што мы яшчэ не даспелі да гэтага, што самі яшчэ поўнасцю не ведаем, якія мы. А ў назве хацелі б самаакрэсліцца.

— Ці ўсё ж такі ёсць нейкія прапановы?

— Усім не дагодзіш, і таму нам трэба будзе быць адназначнымі і па праграме і па нацыянальным абліччы. Асноўнае — то забяспечыць хор рэпертуарам з беларускім ядром.

— Пытанне, якое мяне хвалюе: як глядзіце на конкурс „Беларуская песня" і ацэнкі журы?

— Спаборнічаць у конкурсе трэба. Правілы адносна ацэнак пакідаюць справу адкрытай. Неабходна мець на ўвазе патрэбы і магчымасці ўсіх калектываў. Можна ўвесці дзве галоўныя катэгорыі ў адным усё ж конкурсе: калектывы народныя і калектывы з прафесіянальным музычным кіраўніцтвам.

— А як ацэньваеце наш вялікі песенны рух?

— Зроблена вялікая работа, і не толькі дзякуючы актыву. Часта гэта праца ў адзіночку. Не заўсёды патрапім дапамагчы людзям, якія хочуць што-небудзь рабіць. Часта бывае так, што хочам мець гатовы калектыў, дзесьці кімсьці арганізаваны. Не можна аднак, каб было так, што, для прыкладу, калектыў у Гайнаўцы — гэта справа Бушко і Лукашука. Мы не выпрацавалі яшчэ ўласцівай атмасферы вакол аматарскіх калектываў.

— Ведаю, што асабіста ездзіце ў вёскі, гуртуеце галасы, памагаеце арганізаваць новыя калектывы?

— Хацелася б, каб у кожнай вёсцы спявалі.

— А ці Гайнаўскі беларускі хор, які працуе пры Гайнаўскім доме культуры пад мастацкім кіраўніцтвам Аляксандра Лукашука можа ўжо сёння ў любым месцы даць самастойны поўны канцэрт на дзве гадзіны?

— Так.

— Дзякую за размову. Чакаем на канцэрты.

Гутарыла **Вера Леўчук**



Мгр Аляксандр Лукашук — кіраўнік Гайнаўскага беларускага хору. Фота Я. Чэрнякевіч.

**30 год БГКТ і „Нівы"**

# ДВА СВЯТЫ

### У Міхалове

Перадабедняй парой у нядзелю, 6 ліпеня бягучага года, людна было на вуліцах Міхалова. Жыхары мястэчка спяшаліся — хто гуртам, а хто ў паасобку — на мясцовы стадыён. Тут распачынаўся народны фэстын з нагоды 30 гадавіны Беларускага грамадска-культурнага таварыства і „Нівы" і Міжнароднага дня спулдзельцаў.

А вось і спартыўная пляцоўка за пасёлкам у засені алешын, якія падыходзяць ажно да прысядзібных агародчыкаў. Тут ужо размясціліся ларкі з рознымі прадуктамі і напіткамі. Сярод іх ёсць і букіністычны кіёск.

Пасярэдзіне спортпляцоўкі сцэна, умаеная малодзенькімі бярозкамі і лозунгамі. Сярод іх на ружовым палатне надпіс — „Свята беларускай культуры".

А 13-ай гадзіне на сцэну ўвайшлі прадстаўнікі Галоўнага праўлення БГКТ у Беластоку, а таксама ГС, СКР, жыллёвага кааператыва і спулдзельчага банка ў Міхалове. Урачыстасць адкрыў і прывітаў усіх яго ўдзельнікаў старшыня Галоўнага праўлення БГКТ Аляксандр Баршчэўскі. Усе слухалі вядомага на Беласточчыне паэта з вялікай увагай. Затым са змястоўным дакладам выступіў намеснік старшыні міхалоўскага ГСу — Віталі Янчук. Ён расказаў пра дасягненні міхалоўскіх спулдзельняў, пра развіццё вясковага гандлю і спулдзельчага гандлёвага будаўніцтва ў апошнія гады.

На заканчэнне афіцыйнай часткі найлепшым работнікам ГС былі ўручаны значкі „Заслужаны для Беласточчыны" і „Заслужаны дзеяч спулдзельчага руху".

Пачалася мастацкая частка. Першы выступіў трыццаціасабовы хор з Гайнаўкі. Прагучалі папулярныя і як жа ж любыя нашаму сэрцу беларускія песні. Усе слухалі іх з нятоеным захапленнем. З імі зліваліся мілагучныя зыкі акардэона, на якім па-майстэрску акампаньяваў Аляксандр Лукашук.

З вялікім поспехам выступілі салісты Юры Налівайка і Ян Карповіч з Гарадка ды Марыя Аліфер з Ляўкова.

Паўгадзіны ўсіх паланіў спеў жаночага хору з Ляўкова, які вядзе Васіль Целушэцкі. У харавым калектыве ёсць прыгожыя галасы. Ды й жанчыны — прыгажуні.

Мастацкую частку закончылі спевы і танцы дзіцячага вакальна-танцавальнага калектыву „Нававольцы" пад кіраўніцтвам Рышарда Верабея.

Калі мастацкія калектывы сыйшлі са сцэны, на мураве спортпляцоўкі пачаліся спартыўныя розыгрышы футбольных камандаў.

### У Нараўцы

У той самы дзень у суседняй Нараўчанскай гміне Гайнаўскі гарадскі і Нараўчанскі аддзелы БГКТ арганізавалі гучнае мерапрыемства — Ноч Купалы ў Грушках, над рэчкай Нараўкай.

Падвечар на ўскраіне Белавежскай пушчы распалілі вялікі касцёр. Прыехалі тры беларускія хоры з Міклашэва, Ляўкова і Гайнаўкі. Яны запоўнілі паляну пад векавымі дубамі гоманам радаснага святкавання.

Далёка па бясконцых лугах і сенажацях ды па пушчы плылі меладыйныя старыя народныя песні. Першы выступіў хор з Міклашэва, потым з Ляўкова і на заканчэнне — з Гайнаўкі. Ляўкоўскія жанчыны спявалі на лясной сцэне пра белавежскія сосны ды пра дзявочыя чорныя вочкі, песні „Ой, пайду я, выйду", „Вечарком за рэчкаю" і іншыя.

Вясёлая публіка горача ўспрыймала паасобныя песні ў выкананні Гайнаўскага жаноча-мужчынскага хору. Яны пра тое, як „Лявон Лявоніху любіў", як „Хацела мяне маць" ды „У полі вадзіца". Былі яшчэ песні пра „Хлопцаў рыбалоўцаў" і мноства іншых.

Пасля часта звінела песня „Купалінка — цёмная ночка" Дзяўчаты плялі вяночкі з лугавых і лясных кветак, каля поўначы пусцілі іх на рачныя хвалі.

Ля вогнішча пяклі барана і каўбаскі. Было чым пасілкавацца. Дзяўчаты з гайнаўскага хору разносілі на талерачках бігос.

Танцавалі і спявалі далёка за поўнач. Юнакі і дзяўчаты спяшаліся шукаць папараць-кветку — легендарную кветку шчасця для таго, хто яе знойдзе.

**Янка Целушэцкі**

### БІБЛІЯТЭКА Ў ГАЦЬКАХ

„Ці ахвотна жыхары Гацькоў чытаюць кніжкі?" З такім пытаннем звярнуўся я да Ані Паўлючук — загадчыцы бібліятэчнага пункта ў гэтай вёсцы. „Многа і то вельмі многа, — сказала яна мне. — Цяпер з нашых паслуг карыстае больш за 124 чалавек. Пераважна гэта людзі маладыя, але ёсць даволі многа пенсіянераў, людзей старэйшых, якім я дахаты нашу кніжкі беларускія і рускія аб вайне, мінулым жыцці, аповесці і раманы".

У бібліятэцы два вялікія памяшканні: чытальня і кніжны фонд. У чытальні бачу сярод газет „Ніву", ад першага нумара гэтага года. Моладзь найбольш чытае прыгодніцкую літаратуру, успаміны. Беларускіх кніжак у бібліятэцы 779, а найбольш з іх чытаюць творы Янкі Купалы, Кандрата Крапівы, Якуба Коласа, Янкі Брыля, Пятра Глебкі, а таксама маладзейшага пакалення пісьменнікаў. Бібліятэка ў Гацьках — гэта бібліятэка добрая, на высокім узроўні, у ёй каля сямі тысяч тамоў, усюды парадак, чысціня.

**А. Гаўрылюк**

© PDF: Kamunikat.org 2023

АДГАЛОСКІ

# ЦІ ЦЯЖКІЯ СПРАВЫ ЎСЁ БЯЗВЫХАДНЫЯ?

Што „беларускія справы — цяжкія справы“, даказваць не трэба. З цяжкасцямі жыць мы даўно ўжо прывыклі. Таму добра ведаем, што з імі трэба або мірыцца, або іх пераадольваць Такі закон жыцця.

Бязвыхаднасцю для нас стала страта некалькіх вёсак, якіх землі назаўсёды паглыне сховішча „Семяноўка“. Аграмадная вадзяная маса разліецца па абшары, на якім тысячагоддзям бурліла жыццё, дзе людзі цяжка працавалі, змагаліся са зменлівасцю лёсу, кахалі і паміралі Адыходзячы ж пакідалі след: то ў выглядзе магіл, то дасягненняў, якія былі пасведчаннем іхняга існавання, доказам дзейнасці, якую можна было праверыць. У вадзяным жа бяздонні мы ўбачым адлюстраванне бязмежнай глыбіні блакітнага неба ягоную бясстрасную загадкавасць, раўнадушна нямую вечнасць. І што можна зрабіць, каб планавая пабудова валасховішча нікога не крыўдзіла, а прынамсі, каб не павялічвала духоўных затрат у жыхароў затопленых вёсак і не была ўдарам па нашай меншасці? Пра забеспячэнне матэрыяльнымі сродкамі жыцця людзей, якіх выгнала возера, будуць клапаціцца адміністрацыйныя ўлады. Справамі ж беларускімі павінна, аднак, займацца, не хто іншы толькі Беларускае таварыства.

Вядома, на ўсё патрэбны адпаведныя сродкі. Але сродкі якія здолелі б забяспечыць нас ад духоўных затрат мы павінны здабыць, мы павінны гэтых сродкаў дамагацца. Такія сродкі павінны нам дазволіць здабыць — і сваю кіназдымачную апаратуру, каб магчы запісваць кожную важнейшую падзею ў нашым нацыянальным жыцці (кожны фестываль беларускай песні, нашы з'езды, нашы святы). Варта б ужо падумаць і аб праграме перадач, не толькі па радыё, але і ў тэлебачанні. Аднак, пакуль мы не маем свайго абсталявання, трэба дамагацца, каб нам дапамаглі тыя, хто такое абсталяванне мае.

Вось і на абшары будучай „Семяноўкі“ пакуль існуюць вёскі, ці ж не было б карысна замацаваць на кінастужцы трываючага яшчэ жыцця? Ці ж няма ў гэтых вёсках нічога такога, што ў будучыні магло б зацікавіць хаця б унукаў сённяшніх жыхароў? Ці ж не варта замацаваць успаміны людзей, якія ведаюць мінулае гэтых вёсак? Усё гэта можна б рабіць і ў студэнцкай праграме „Развітанне“ Але дакументальны запіс павінен быць трывалым, ён павінен мець сваё месца захавання і быць пастаянна даступным шырокаму колу грамадства. Ці ж гэта такія нерэальныя патрэбы ў час, калі амаль штодня запісваюцца і паказваюцца на экранах — і ў кіно, і ў тэлебачанні — зусім звычайныя, малацікавыя справы, як неўпарадкаваны сметнік, ці паламаны плот у нейкім агародзе?

**А. Маўчун**

(Працяг на стар. 7)

ЦІКАВА І АДКРЫЎЧА

(Працяг са стар. 1)

стоцкага ваяводства, якія вядзе цяпер Кафедра беларускай філалогіі Варшаўскага універсітэта (з улікам Слоўніка мікратапанімii Беласточчыны).

Агульнай мэтай наступнага дня канферэнцыі былі параўнальныя даследаванні польскіх, беларускіх і літоўскіх гаворак. Э. Смулкова ў сваім дакладзе „Пытанні польска-беларуска-літоўскіх узаемаўздзеянняў на тэрыторыі Паўночна-Усходняй Польшчы“ канцэнтравала ўвагу на тэарэтычных аспектах моўнага кантакту, двухмоўя і ўзаемаўздзеянняў і прадставіла гэта на прыкладзе Беласточчыны. Госці з Савецкай Беларусі — вучоныя з Інстытута мовазнаўства імя Я. Коласа Акадэміі навук БССР: П. Міхайлаў выступіў з дакладам пра рэгіянальныя асаблівасці мясцовых назваў на Брэстчыне. Г. Цыхун прадставіў асаблівасці гаворак Гродзеншчыны. Л. Выгонная пазнаёміла з лінгвістычнай геаграфіяй некаторых асаблівасцей у лексіцы і фанетыцы ў беларускіх гаворках Паўночна-Усходняй Польшчы, Гродзеншчыны і Палесся. Г. Арашонкава расказала пра семантычнастылістычную функцыю запазычанняў з польскай мовы ў творах беларускіх пісьменнікаў, якія паходзяць з Заходняй Беларусі. Гэтыя выступленні выклікалі асаблівае зацікаўленне ўдзельнікаў канферэнцыі.

На Беласточчыне спрадвеку сутыкаюцца славянская этнічная група з балтыйскай і гэта трывала адлюстроўваецца ва ўзаемным уздзеянні балтыйскіх і славянскіх моў. Гэтыя пытанні былі закрануты ў дакладах Г. Папоўскай-Таборскай „З разважанняў над пруска-паморскімі моўнымі сувязямі“ Т. Зданцэвіча „Літоўскія памяншальна-ласкальныя мясцовыя назвы на Сувальшчыне і змены ў іх, якія выступаюць у выніку паланізацыі“ і В. Смачынскага — „Літоўскі элемент у мясцовых назвах Падляшша“, у якім ён цалкам па-новаму глянуў на паходжанне многіх нашых назваў і абверг іх нібыта літоўскае паходжанне.

Метадалогія даследаванняў разважалася ў наступным дні канферэнцыі. Даклады прадставілі з Югаславii — М. Матыч „Дыялектная лексіка ў этналагічных даследаваннях“ і з Чэхаславакіі — І. Рыпка „Фразеалагічныя злучэнні ў дыялектным слоўніку“, пра неабходнасць комплексных этнаграфічна-дыялектных даследаванняў гаварыла М. Дужынская.

Затым удзельнікі канферэнцыі наведалі Музей сельскай гаспадаркі ў Цеханоўцы, дзе заслухалі інфармацыі па гісторыі Падляшша і суседніх з ім зямель, а затым гасцявалі ў лагеры па вывучэнню гаворак школьнай моладдзю ў Чартаеве.

Канферэнцыя была вельмі плённая. Кожны дзень пасля дакладаў разгараліся працяглыя і гарачыя спрэчкі, якія ўносілі многа каштоўных заўваг і новых матэрыялаў да прадстаўленых у дакладах пытанняў. Канферэнцыя выявіла шэраг надзвычай цікавых лінгвістычных пытанняў, якія датычаць моўнага паграніччa.

**Я. Глушкоўская**

Фота Я. Чэрнякевіч



Група ўдзельнікаў Міжнароднай лінгвістычнай канферэнцыі. Беласток 1-5 ліпеня 1986 г.

(Працяг са стар. 3)

НАРЫЎ

ла. Потым нехта прынёс палатна і завінуў рану. Я быў здзіўлены. Самі яны ў мяне прарываліся, самі гоіліся. Ніхто іх мне ніколі не завіваў. Аперацыя цёткі аблягчыла маё жыццё і нават дзень паказаўся весялейшым, хаця есці хацелася. Я не мог зразумець, як гэта так можа быць — Анопрычыха, зусім чужая і мяне палечыла, а мачаха рагатала, калі я віўся ад болю. Смяялася, ды яшчэ і цешылася, як быццам бы ёй ад гэтага была нейкая палёгка, што мне баліць. А тут зусім чужыя людзі... Праўда, быў там і дзядзька, але гэта не ягоная была прапанова, каб мяне лячыць.

Лячылі яшчэ мяне і пастушкі. Але гэта было лячэнне вельмі пакутлівае. Перакідалі мяне на траву, а калі ўцякаў, дык даганялі. Дужэйшыя трымалі, а нехта з меншых лупцаваў па нарыве. Пры кожнай такой „аперацыі“ думаў я, што сэрца вось-вось разарвецца. Верашчаў я як свіння, якую колюць, а яны гаварылі, што нарыў неабходна адбіваць, то тады ён хутчэй даспявае.

Апошнім, які мне запамятаўся, быў нарыў, што сеў пад восень 1941 года, калі я пас авечак у Тафілаўцах. Не ведаю, ад чаго на маёй левай пяце сеў вялікі нарыў. Цэлую пяту і аж да сярэдзіны ступні заняў. Боль, як вядома, страшэнны, але хадзіць трэба. Часамі хіба і млеў, бо не заўважаў, калі мае авечкі злучаліся з другім гуртам. Мы тады ўжо мусілі аж да вечара пасвіць разам, бо авечак раздзяліць было немагчыма. Тафіляне за гэта злаваліся, бо мусілі потым бегчы на Сяло за сваімі авечкамі. Клялі мяне за гэта і празывалі. А я ўжо хадзіць не мог. Дайшло да таго, што ад пяты пайшла чырвоная паласа да пахвіны і там зрабілася скула жоўта-сіняга колеру. Я траціў прытомнасць, а выручыць мяне, хаця б на адзін дзень, ніхто не хацеў. Гаспадары ўсё больш гневаліся, што „мае“ авечкі злучаліся з другой чарадой. Пачалі пагражаць, што дапасуць самі, а мяне выганяць дадому.

Назаўтра, гонячы свой гурт з Бабкі, упаў я каля самай вёскі і страціў прытомнасць. Авечкі паразбягаліся па агародах, але людзі ўбачылі тое і хутка павыганялі іх. Мяне нехта абудзіў, і я, паўсвядомы, пайшоў да Васіля, дзе быў на чарзе. Лёг на лаўку і стагнаў. На маё шчасце была ў гэтага гаспадара сястра — бедная, маленькая гарбулька. Яна адна мне паспачувала і зацікавілася маімі нарывамі. Прыклала мне на балючае месца нейкую мазь. Прайшло з паўгадзіны, а мне не толькі не палягчэла, але пагоршала. Думаў я, што нагу з бёдраў вырывае. Дзяўчына гэта заўважыла, выцерла гэтую мазь і прыклала іншую. Прыклала і сказала, што ўсё будзе добра, пайшла да сваіх заняткаў. Не ведаю, што сталася, але раніцай прачнуўся я крыху здаравейшы. Мае гнайнякі пачалі выцякаць, і мне палягчэла, але не на столькі, каб я мог хадзіць у поле. Таго дня канчалася мая чарга ў Васіля, і трэба было пераходзіць да надта багатага Назарука. Быў я вельмі аслаблены і мне гудзела ў галаве.

Відаць, было ўжо па снеданні, бо Назарук не вытрымаў і за мною прыйшоў. Убачыўшы мяне на лаўцы, загаварыў: „А ты докуль будзеш лежаты? Шчо

(Працяг на стар. 6)




© PDF: Kamunikat.org 2023

(Працяг са стар. 1)

# З ДУХАМ ЧАСУ

працавала. Паводле спецыялістаў, фарбавальня збудавана па апошнім слове тэхнікі. У ёй на працягу адной гадзіны 28 разоў выменьваецца паветра, так што зусім няма пары. Спынена прадукцыя ў фабрыцы пры вуліцы Леніна, у якой працавала каля 300 чалавек. Распачалася ліквідацыя фабрыкі пры вуліцы Влукеннічай. Асталіся там да некаторага часу два цэхі — прадзільня і ткальня, у якіх працуе яшчэ 120 чалавек. Фабрыка ў Міхалове мадэрнізуецца і разбудоўваецца. Там абсталяваны ўжо новыя сучасныя машыны.

Усё гэта дазволіць скараціць 580 працоўных месц (цяпер працуе 1620 чалавек). Колькасць людзей моцна зменшылася. Але колькасць і якасць прадукцыі не зменшылася, а павялічылася. Значыць, прадукцыйнасць працы на аднаго чалавека тут мае высокія паказчыкі.

Каб пашырыць асартымент вырабаў, уведзена новая тэхналогія і самыя сучасныя кросны, што дасць магчымасць выраблядь тканіны розных колераў і ўзораў, нават партрэты можна выткаць. Плануецца прадукцыя коцаў (пледаў) з казачнымі малюнкамі. На іх вялікі попыт. Адна такая машына ўжо рушыла.

Кожная новая тэхналогія патрабуе падрыхтоўкі да яе людзей. І калі гэта трэба, прадпрыемства накіроўвае рабочых на спецыяльныя курсы ў Цэнтральны доследны асяродак у Лодзі.

Прадпрыемству не хапае тэхналагічнай пары для выканчальных працэсаў пры вырабе тканін. З гэтай прычыны змяншаецца прадукцыя зімою, калі гэтая пара патрэбна для абагравання жылля. Таму неабходна пабудова парапровода даўжынёй каля 4 км. Праўда, патрэбна таксама яна і фабрыкам „Пасманта“ і „Біруна“, а таксама бальніцам і жыллёвым кварталам. Адным словам, Беластоку патрэбная вялікая інвестыцыя.

Мадэрнізацыя стала магчымай дзякуючы гаспадарчай рэформе



Старанлівая ткачыха Станіслава Жалязоўская працуе за кроснамі ўжо больш за 20 год.

і аператыўнасці кіраўніцтва прадпрыемства і яго партыйнай арганізацыі, якая налічвае 263 асобы і складаецца з 5 ПОП. Партыйны камітэт прадпрыемства займаецца ўсімі праблемамі прадпрыемства, стараецца быць яго рухавіком і палітычным кіраўніком, не падмяняючы абавязкаў дырэкцыі і грамадскіх арганізацый.

У Сяржана ўжо два гады паспяхова дзейнічае новая сістэма зарплаты, а яе дэвіз: „За добрую працу — добрая плата“. Дае яна магчымасць высокіх заробкаў для старанлівых рабочых, якія дабіваюцца высокай прадукцыйнасці. Да іх належаць: ткачы — Станіслаў Ненарт і Сяргей Марчук, прадзільшчыцы — Анна Віркоўская і Моніка Літвінка, скручвальніцы — Галіна Кот і Надзея Рэент, цыравальніца Валянціна Дылько і сотні іншых.

Партыйны камітэт прадпрыемства здаўна праводзіць індывідуальныя размовы з членамі партыі і беспартыйнымі. Падчас іх выяўляюцца недахопы і цяжкасці ў працы і жыцці многіх людзей. Часам здаецца, што некаторых трэба было б звольніць з працы за непаспяховасць, але аказваецца, што ім трэба дапамагчы. А былі і такія, якія п'янствавалі падчас працы і з тымі трэба было развітацца.

Пастановы X з'езда ПАРП, яго ідэі, дадалі для партыйнай арганізацыі прадпрыемства новых імпульсаў да дзеяння. Пры яе дзейснай дапамозе кіраўніцтва Сяржана мае ўсе магчымасці паспяхова ажыццявіць мадэрнізацыю прадпрыемства і дабіцца пастаўленых перад сабою задач.

**Міхась Хмялеўскі**
Фота аўтара

# МАЙСТРАМ НАРАДЗІЎСЯ

Пра Мікалая Рыбака с. Івана з вёскі Тафілаўцы гаварылі калісьці: малазямельны селянін, бядак. Людзям здавалася, што як у чалавека менш зямлі, ці меншы пасаг, то ён якісьці горшы.

А Мікола цяпер кажа: „На працягу свайго жыцця я 66 дамоў пабудаваў. Усяк працавалася за грошы і без грошай, але маю тое задавальненне, што адну з важных праблемаў сённяшняга часу вырашаў — забяспечваў людзей жыллём“.

Мікола сапраўды нарадзіўся майстрам. І яго сын Грыша — майстар, але ён майстэрству вывучыўся ў школе. Хаця час прамінае хутка, але я не сумняваюся, што бацька з сынам яшчэ многім людзям пабудуюць, ці пакрасяць дамы.



Адзін чалавек пісаў: „У нас былі дамы, значыць, былі і майстры“. Як жа ж часта мы захапляемся прыгожым будаўніцтвам, але не ведаем хто яго ўзвёў, чыя гэта праца.

Прыемна, калі чалавек, пражыўшы больш 60 год, можа сказаць, што ён не патраціў сваіх дзён і што ўмелыя, працавітыя, здаровыя рукі — гэта найбольшае чалавечае багацце.

**Мар'я Пень**

(Працяг са стар. 5)




дісь нэ думаеш гнаты овэчок? Мусыт ты барзо хочэш, коб мы тэбэ выгналі і самы допаслі? Вставай і жэны, нэма тут чогс прытворатысь!“ Я ўстаў і мусіў гнаць. Было цяжка, але можа гэта і дапамагло, бо ступаючы, я выціскаў гной і гэта ачышчала рану.

Усё ж дапас я да канца. Зарабіў трыццаць пудоў жыта, гэта значыць — пяць цэнтнераў. Не ведаю, ці было пяць цэнтнераў, але пяць мяшкоў было. Падвесну немцы забралі ўсё на кантыгент.

**Васіль Петручук**

# ДАРОГА ДАМОЎ

Нарадзілася я ў чатырнаццатым годзе, на Смаленшчыне. У васемнаццатым годзе вярнуліся. Мне было 6 гадоў, як конь бацьку майго забіў. Нас было тры дачкі, адной 4 гады, другой — 6 тыдняў. Тых дзвюх забралі дзядзькі, мяне ўзяла цётка. А ў цёткі было работы на маіх 7 гадоў: сямёра дзяцей калыхаць, кароў даіць ды яшчэ і пер'е драць. Цётка кажа: ты не калышы рукою, калышы нагою за вочапку, а рукамі пер'е дзяры! Чаму табе, цётка, гэтае пер'е моль не паела! Нашто мне гэта бяда! І плачу, і думаю: у каго бацька, як таму добра жыць, і ў школу хадзіць... А пайду карову даіць, то ў рукаў, то за вядро, карова да таго бітлівая была. Спутае яе дзядзька на тры нагі, усё роўна малако выб'е. Цётка крычыць: у мяне пазуха мокрая. Дзе карову дзіцяці даіць...

Прабыла я ў цёткі тры гады. Ці ў цябе маці няма, уцякай, дзіця, згэтуль, кажа адна жанчына. Як я ўцяку? Дарога далёкая. Трэба ісці праз гараймоўскі лес, праз багно, праз балота, ды яшчэ праз багон, дзе торпу капаюць, я ж прападу! Толькі да Новай Волі ведаю дарогу. Добра, як пойдзем па ягады, я цябе правяду. Правяла: ідзі з Богам! Я іду, баюся, кажуць, у лесе дурны ходзіць. На табе: акурат і той дурны стаіць, абняў хвойку, крычыць на цэлы лес! Я бягом, я бягом! Каб хоць да палавіны лесу дабегчы, там стаяць крыжы. Дабягу туды і хоць гэты хлеб з'ем. Выходжу — могілкі, блізка бераг лесу, поле. Бабы жалі. Бяжыць хутка полем якаясь жанчына і сярпом махае: Верка, пачакай, Верка, пачакай! А я акурат і Верка. Думаю, адкуль ты мяне, баба, ведаеш? Села я на камень, хлеб ем. Баба стаіць, узіраецца на мяне. Дзетка, а сколь ты ідзеш? Ой, аж з Ванева, пра цэлы навайвольскі лес. А я думала, што мая сястра ідзе. Пакажыце мне, цётка, сцежку, каб я дайшла да Курылоў. Пайшла я за клунямі, як тая паказала. Я босая, а каменне, а гліна калючая, горача, але іду. Бачу, каровы пасуцца. Сцежкі праз пашу і багон не ведаю. Я хадзіла і ўлева, і ўправа, сцежкі няма. Глянула на сонца: нясі мяне Бог праз гэты багон. А багно па пахі, а перад носам о так падымаецца. Пастух сказаў, што тут многа дзікіх катоў. Як на маё гора — мяў! Кот! Бягу, куды вочы нясуць. Бягом, бягом! Ужо Забагны. Заходжу ў адну хату, а мне толькі вочы блішчаць. Гаспадыня кажа: адпачні, а я не, бо пакуль зайду дахаты, сцямнее. Пакуль прайду Рабінаўку, ваўкі мяне з'ядзяць. Іду, цалюсенькі дзень. Выйшлі на ягады — то сонейка з-за зямлі выкачвалася, а дахаты прыйшла — акурат з пашы кароў гналі. Мама пытае, як я прыйшла. Не ведаю, як Бог прынёс, але цяпер не пайду я да вашай цёткі. Не хачу. Чом? Дзіця, будзь у іх, дзядзька прыедзе, поле нам заарэ, усё. Не, не хачу. Дзеці іншыя вучацца, дзяўчаткі паўбіраныя, а я босая. Як я дарам буду так рабіці, плакаці, ды яшчэ й пер'е ім драці? Прыязджае на другі дзень дзядзька. Не хавалася я, але і не пайшла з ім.

Стала шчаўе збіраць, яўрэю ў Гарадок насіць. 5 грошай — вялікі заробак. Суседка, якая ўжо служыла, сказала, што возьме мяне на службу. Хто мяне возьме? Я малая, худая, мяне яўрэі не возьмуць. Яўрэйка пытаецца, колькі мне гадоў. А я ведаю? Я ў школу не хадзіла. А мама: а чорт цябе ведае, колькі табе!

А мне было 14 гадоў. Паслала яўрэйка мяне да солтыса па картку. Думаю, падам, што з 18 года, будзе больш мне, 18. Так ён і напісаў. Рукамі яўрэйка пляснула: то ж ты зусім яшчэ рабёнак, табе 10 год, што ты ўмееш рабіць? Бяруся я ўсё рабіць. 9 чалавек — усе мужчыны, адна яўрэйка. Пяцьсот кавалкаў бялізны папатрэш, папапрасуеш прасам на вугольчыкі. Ідзем на базар. Пані — багатая, служанка — босая. Змерзну, плачу, што бацькі ня-

(Працяг са стар. 5)

## АДГАЛОСКІ

# ГЭТАК НЕЛЬГА

Цікавіць мяне пабудова Музея помнікаў беларускай культуры. Хачу, каб „Ніва" болей пісала пра гэта. Бо нельга ж абмежавацца тым, хто і колькі ахвяраваў грошай. Трэба людзям наблізіць справу. Адносна мала людзей ведае пра гэтую пабудову. Сустрэлася я нават з людзьмі, якія не ведалі, што ў суседняй вёсцы, усяго паўкіламетра ад іх, знаходзіцца пункт збірання экспанатаў. Да таго невядома хто іх збірае і да каго ісці. Жыву я побач аднаго з такіх пунктаў і яшчэ не давялося мне пабачыць, каб хто-небудзь яго адчыняў, ці прынёс экспанат. Калі і ў іншых пунктах дзеецца таксама — гэта вельмі прыкра. Людзей трэба інфармаваць!

Варта болей зацікавіць наша грамадства гэтай справай. Па Беластоцкаму радыё кожную суботу ідзе перадача на беларускай мове, яна мае шырокі круг слухачоў. Ці не варта адкрыць у ёй сталы куточак, прысвечаны справам нашага музея?

У гміне Міхалова некалькі вёсак будзе выселеных у сувязі з пабудовай вадасховішча. Увесь час разбіраюцца дамы. Людзі пераважна перасяляюцца ў кааператыўныя кватэры. Забіраюць з сабой толькі тое, што ўважаюць за неабходнае ім. Усе старыя прадметы, прылады, рэчы, посуд і іншае — самыя каштоўныя музейныя экспанаты — застаюцца пад платамі, у кустах. Ніхто тым не цікавіцца. Гаспадары ж нават і не падазраюць, што гэта можна аддаць у пункт збірання экспанатаў. Людзі, нельга, ж дапускаць да такога! Прашу, пацікаўцеся, займецеся, задбайце! Думаю, што павінен зараз жа прыбыць у гэтыя вёскі нехта адзін або некалькі чалавек з Грамадскага камітэта пабудовы музея. Я таксама вельмі ахвотна дапамагу ў збіранні экспанатаў. Мой адрас у рэдакцыі „Нівы". Чакаю!

**Рыта**

# ПРА ШТО ГЭТА СВЕДЧЫЦЬ?

У Бельску ёсць дзве фірмы, якія займаюцца продажам батарэй для электрычнай агароджы — склад машын і запасных частак, і бельская малачарня. Прадаюць яны гэтыя батарэі толькі зімою, значыць тады, калі „электрычны пастух" яшчэ непатрэбны, а каровы стаяць у хлявах.

Купіў я батарэю ў малачарні якраз. На жаль, пакарыстаўся я ёю ўсяго паўтара месяца. Званю я тады ў тую малачарню і кажу: дайце мне ўзамен іншую. А тэхнічны шэф, — з ім я гэта гаварыў, — адказвае мне на тое: ніхто і ніколі дагэтуль не звяртаўся да нас з падобнай справаю, хоць вядома нам, што часам, памылкова, прадавалі мы гаспадарам тыя батарэі зусім без электрычнага току, значыць, не зараджаныя, але гаспадары яксьці маўчалі... Не можам вам даць узамен іншую, бо наогул не маем цяпер батарэяў!

Так закончыліся мае перамовы з бельскай малачарняю.

Давай я звязвацца з тым складам машын і запасных частак. Званю туды, тэлефон мой прыняла нейкая жанчына. Пытаю я пра батарэі, а яна адказвае мне, што на складзе іх няма, ужо няма. А калі будуць у вас гэтыя „электрычныя пастухі"? А ці я ведаю! — адказала яна. Пакліччце да тэлефона, калі ласка, вашага кіраўніка, кажу ёй я. Няма яго тут, ён ходзіць па складзе, але зараз будзе, пазваніце пасля.

Званіў я і пасля, і назаўтра, і ўсё чуў падобны адказ. Аніяк я не змог дазваніцца да таго кіраўніка на тым складзе машын і запасных частак у Бельску. Пра што гэта сведчыць?

**Валянцін Семянюк**, Райкі.

# НАМ АДКАЗВАЮЦЬ

Centralny Związek Spółdzielni Inwalidów informuje, że przedstawiony w artykule M. Chmielewskiego „W obronie pokrzywdzonych" („Niwa" z dnia 11.V.1986 r., Nr 19) problem produkcji wyrobów odzieżowych dla służby zdrowia dotyczy 31 spółdzielni inwalidów zrzeszonych w Zrzeszeniu Wytwórców Bielizny i Odzieży Szpitalnej, które koordynuje przedmiotową produkcję od wielu lat.

Działające aktualnie Rozporządzenie Rady Ministrów Nr 185 z dnia 19 lipca 1985 roku w sprawie zapewnienia warunków działania i rozwoju spółdzielczości inwalidów i spółdzielni niewidomych, nie jest w pełni respektowane przez wszystkie resorty, a § 10 pkt 1 dopuszcza produkcję przez inne jednostki gospodarcze, na określonych zasadach.

Centralny Związek Spółdzielni Inwalidów i Regionalny Związek Spółdzielni Inwalidów nie lekceważą przedmiotowego problemu (jak określono w artykule), ponieważ podejmują szereg działań interwencyjnych, które niestety nie zawsze przynoszą pozytywne rezultaty. Między innymi na interwencję naszą w Ministerstwie Zdrowia i Opieki Społecznej uzyskaliśmy odpowiedź, z której wynika, że przyjęte rozwiązanie wyłączności produkcji przez spółdzielnie inwalidów „może być uznane za niezgodne z zasadami reformy gospodarczej". Dlatego też MZiOS nie wyklucza możliwości zakupu bielizny i odzieży od innych producentów. Pełnomocnik Ministra Przemysłu Chemicznego i Lekkiego d/s Programu operacyjnego ochrony zdrowia, w którego dyspozycji są między innymi przydziały tkanin, również dopuszcza do produkcji innych wytwórców z poza spółdzielczości inwalidów. W świetle powyższych faktów stwierdzamy, że głównym powodem istniejącego stanu jest brak zrozumienia problemu zatrudnienia i rehabilitacji inwalidów przez Ministerstwo Zdrowia i bezpośredniego odbiorcę PZL „CEZAL". Nadmieniamy jednak, że Spółdzieni udzielona została pomoc w przedmiocie pokrycia wolnych mocy produkcyjnych poprzez skierowanie zamówień od bezpośrednich odbiorców, tj. Centrum Zdrowia Dziecka i Szpital w Bydgoszczy.

**Centralny Związek Spółdzielni Inwalidów**
**Dyrektor Biura Produkcji**
*mgr inż. Jerzy Bednarkiewicz*

✸

W odpowiedzi na notatkę prasową, zamieszczoną w tygodniku „Niwa" z dnia 1986.06.08 pt. „Hajnauskija „empeki", w sprawie złego stanu nawierzchni jezdni na ulicach asfaltowanych Urząd Miejski w Hajnówce uprzejmie informuje, że przełomy na jezdniach ulic, o których pisze autor notatki były wynikiem trudnych warunków zimowych. Z chwilą nastania sprzyjających warunków atmosferycznych zostały one całkowicie zlikwidowane. Nadmienia się przy tym, iż sukcesywnie prowadzi się roboty remontowe ulic poprawiając warunki jazdy szczególnie w ciągach tras MPK. W roku bieżącym takim zabiegom poddane zostaną ulice brukowe i Armii Czerwonej, a w przyszłym 1 Maja.

**Zastępca**
**Naczelnika Miasta Hajnówki**
*mgr Jadwiga Rudzińska-Patejuk*

# РОДНЫЯ КРАЯВІДЫ




**У адной з вёсак Арлянскай гміны. Графіка У. Петрука. 1986 г.**

ма. Гаспадыня не пусціць на Пакрову на могілкі. Плачу і плачу. Аж прыходзіць у сне да мяне мой тата і кажа: — Чаго ты плачаш? — А як мне жыць? — Не плач, ты ўжо столькі наплакала, што я ўжо не дам рады хадзіць. Мяне вада ўжо па калені займала, па пояс, а цяпер ужо і рот залівае. Я больш ужо да цябе не прыду.

Праслужыла я 4 гады. Нарываецца мне замуж. Пашкадавала маму і сясцёр, што ім цяжка. Пажыла паўтара года замужам. А муж вельмі „добры" быў. І ў карты гуляў, і дзяўчат любіў.

І так мне шчасця не было. Пачалася вайна, пайшоў муж. Нарадзілася дачка. Прыйшоў муж, пажылі пару гадоў. Ужо — пажар. Згарэла ўсё датла, асталася адна подушка. Толькі попел. Як жыць. Дасталі пару злотых, падзялілі. Што купіш за іх?

Ані хаты, ані хлява, а мужык у карты гуляе. Стану крычаць — дасць. Прыдзе дзень — робіць, праўда, не спіць удзень. Настане ноч — калышу дзіця, у чужой хаце. Віднее — мужык прыходзіць. Ну, і гора гаравала. Хадзіў 15 гадоў да дзеўкі. Якое я мела жыццё? У хаце — ніхто не ведае. І так трэба было хадзіць да людзей і гной трэсці, і бульбу капаць, і хаты бяліць, і сціраць. А прыдзе мужык, кідаецца: а што ты робіш? Дзеці падраслі. І на сваім рабіць, і на чужым, а ён усё крычыць, што фэ.

Цяпер — памёр. Мала аднае бяды — дастала дзялянку нізкую. Як папарабіла лета — узяла аслепла. Лячылі, вока ёсць, ды не свеціць. І пенсія малая, калі падбавяць? Да восені вецер, можа, мае косці правее. Сёння чатыры гады, якія калісь сабе адняла ў солтыса — вялікая розніца. І апека не належыцца — замаладая. Каб якая карова была, было б якое заняцце. Каб сіла была, памагла б іншым, бульбы падкінулі б.

Сохне гэтая няшчасная галава, круціцца. Да дохтара ўстыдна пайсці, раздзецца — я ж такі шкілет! А што мне дохтар паможа? Апетыту не маю, не ем, а цяпер о, склепу няма. Жыві як хочаш. Яйкам наясіся?

Прыедуць унукі, пойдуць з хаты невядома куды, а ты, баба, сама сядзі. І аказацца няма каму. А некаторыя суседзі зайздросцяць, што адна жыву, няма клопатаў. „А, чорт цябе не возьме, ты яшчэ хутка ходзіш". Я мушу хутка хадзіць, бо я сухая, летка. Але сілы няма. Кажуць: баба, не рабеце, сядзіце. Як не будзеш рабіць? Захварэю — няма каму вады прынесці. Людзі не вераць: яшчэ як ходзіш, дасі рады. Ніхто пад вакно не заглянe, жыву ці не. Якое гэта жыццё?

Прыедуць святам, пабудуць. Каб цешча паставіла што, добра было б. Не, дзеткі, з гэтых 5.200 няма рызыка. Платы — валяцца, печы — валяцца, мужыка няма. Палена купі — 3 тысячы. Прывязі штось — тысяча. Штось чым дзе стукне — паўлітра. А дзе яго то ўзяць! І думай, баба, як жыць. Кажу: дзеці, аддайце мяне ў Ялоўку. Сын кажа: прыйдзі да мяне жыць! Але нявестка нічога не кажа, як пойдзеш? Не пойдзеш. Дачка кажа: мама, кідайце ўсё, прыходзьце да нас! Добра, дзетка, ты просіш, але чаму зяць не просіць? Пакуль я вам дзяцей пагадую, а пасля што? І ні ў вас, і свая хата, якая ёсць, прападзе.

Так не раз думаю: пайду я, мусі, сабе ў свет. А ну яго! Іншы кажа: страшна ўміраць. А мне смерць нястрашная. І часамі так надумаюся: не, пайду! Людзей якось устыдна, людзі скажуць: во, дзеці е, пашла маці ў свет. Як жыць?

**Міра Лукша**

# НОВЫЯ ГАТУНКІ ЗБОЖЖА

Хлеб... Якое кароткае, але ёмістае слова. А які ў ім закладзены сэнс! Гэта і насенне ў сеялцы, і кволыя зялёныя ўсходы, і спелая ніва, што шуміць важкім коласам, і самое зерне, якое струменіць у элеватары. Гэта, нарэшце, боханы на нашым стале.

І адна з асноўных задач, пастаўленых перад сельскай гаспадаркай, — павышэнне ўраджайнасці, інтэнсіфікацыя земляробства. Вядома, што для атрымання высокіх ураджаяў патрэбны і дадатковая колькасць угнаенняў, і навукова абгрунтаваная агратэхніка, і ўмелае кіраванне гаспадаркай, і дастатковая колькасць litрознай сельскагаспадарчай тэхнікі, і многае-многае іншае. Але найперш патрэбны новыя высокаўраджайныя гатункі аўса, ячменю, жыта, пшаніцы... Менавіта ад гатунку ў першую чаргу залежыць ураджай.

І тут на дапамогу сельскім працаўнікам прыходзіць навука. Ролю навуковай селекцыі цяжка пераацаніць: яна з'яўляецца найбольш эфектыўным, эканамічна выгадным і хуткім сродкам павышэння прадукцыйнасці зямлі і працы тых, хто на ёй працуе.

Слова „селекцыя" азначае адбор, выдзяленне лепшага. Але сённяшняе разуменне яе значна шырэйшае — гэта стварэнне новых гатункаў і гібрыдаў раслін шляхам накіраванага ўздзеяння на іх рознымі біялагічнымі, хімічнымі, фізічнымі і агратэхнічнымі сродкамі.

— Новыя гатункі павінны быць не толькі высокапрадукцыйнымі, але і багатымі на бялок, мець добрыя хлебапякарскія якасці, — гаворыць вядомы беларускі селекцыянер Мікалай Мухін. — І што асабліва важна — быць устойлівымі да хвароб, да шкоднікаў, да палягання.

Толькі за гады 1980-85 беларускія селекцыянеры пад яго кіраўніцтвам у садружнасці з фізіёлагамі, генетыкамі, біяхімікамі і другімі спецыялістамі стварылі і перадалі на дзяржаўныя выпрабаванні 28 новых гатункаў інтэнсіўнага тыпу.

Будуць удзячныя хлеба робы вучоным за гатунак ячменю Заазерскі 85. Выпрабаванні яго праводзіліся ва ўсіх зонах Беларускай ССР — ураджайнасць дасягае 70 працэнтаў з гектара.

Дзесяць гадоў навуковы калектыў пад кіраўніцтвам М. Мухіна працаваў над стварэннем новых гатункаў азімага жыта Пухаўчанка і Крыжачок. У гэтай пяцігодцы яны прыйдуць на змену вядомаму гатунку Белта, які займае цяпер значную частку ўсіх пасяўных плошчаў. Пухаўчанка і Крыжачок абяцаюць па 64-68 цэнтнераў збожжа з гектара, што на 5-8 цэнтнераў больш, чым могуць даць ураджайныя на сённяшні дзень гатункі. Да таго ж яны маюць добрыя мукамольныя, хлебапякарскія і смакавітыя якасці. Новыя гатункі добра пераносяць зіму, маюць кароткае ўстойлівае да палягання сцябло, не паддаюцца захворванням.

Няцяжка падлічыць, якую высокую прыбаўку дадуць гэтыя дадатковыя 5-8 цэнтнераў на мільёнах гектараў пасяўных плошчаў Беларусі і СССР.

А на чарзе яшчэ больш перспектыўныя гатункі Верасень і Радзіма, над якімі працуюць зараз вучоныя. У апошнія гады тэрміны стварэння новых гатункаў значна скараціліся. На дапамогу селекцыянерам прыйшла сучасная тэхніка — фітатроны, цяпліцы, камеры штучнага клімату, лазерныя ўстаноўкі, што дазваляе атрымліваць на доследных дзялянках па 2-3 ураджаі ў год.

Атрымліваць расліны „па заказу", навучыцца кіраваць генетычнымі працэсамі — вось асноўная мэта, якую ставяць перад сабой вучоныя. Хлебны колас бачыцца ім яшчэ больш буйным і важкім.

**Дзмітры Лупач**
„Беларусь"

# РАСКЛАД РУХУ ПАЯЗДОЎ З САКОЛКІ

| Прыезд | Мясцовасць | Ад'езд |
|---|---|---|
| 0.35, 3.39, 4.36, 6.00ас, 7.17, 9.39, 10.30с, 14.17, 5.29, 17.03, 18.09, 21.54 | Беласток | 4.41, 6.09, 7.20, 10.44, 11.41, 15.34, 18.18, 19.31, 20.42 ас, 22.21, 23.35 |
| 4.40, 6.08, 7.02, 10.36, 11.40, 15.33, 18.12, 19.30, 22.06 | Кузніца Беластоцкая | 0.36, 4.43, 7.22, 9.40, 14.22, 15.36, 17.17, 18.28, 22.25 |
| 3.39 | Лодзь Фабрычная | 23.35 |
| 7.07, 10.43, 18.16, 20.41с, 22.19, 23.34 | Сувалкі | 3.41, 6.01с, 7.19, 10.46бс, 14.18, 18.19, 22.22 |
| 3.39, 6.00ас, 10.30б, 14.17 | Варшава Заходняя | 10.44, 18.18, 20.42ас, 23.35 |
| 6.00ас | Гліўіцы-Кракаў | 20.42а |

а — ходзіць да 86.IX.15
б — ходзіць да 86.X.05
с — скоры






# З ЯЕЧАК

## АМЛЕТ ПА-СЯЛЯНСКУ

На 8 яечак трэба ўзяць 2 сталовыя лыжкі мукі, 1 шклянку малака, 200 г саланіны, соль.

Яечкі збіць, пасля чаго дадаць муку, соль і малако і ўсё добра перамяшаць. Саланіну парэзаць на кавалкі і, падсмажыўшы крыху, заліць на патэльні яечнай мяшанкай. Амлет можна дапячы ў духоўцы.

## АМЛЕТ З КАЎБАСОЙ

На 8 яечак трэба ўзяць паўшклянкі малака, 150 г каўбасы, 1 сталовую лыжку масла ці маргарыну, соль.

Яечкі размяшаць з малаком (ці вадой) і пасаліць. Пасля гэтага заліць гэтым нарэзаную падсмажаную каўбасу і тады падсмажыць усё разам.

## АМЛЕТ З ГРЫБАМІ

На 8 яечак бярэм паўкілаграма свежых грыбоў, 1 цыбуліну, 3 сталовыя лыжкі топленага масла, 1 сталовую лыжку малака, соль.

Падрыхтаваныя свежыя грыбы падсмажыць на масле, змяшаць іх з падсмажанай цыбулькай. З мяшанкі пасоленых яечак і малака падсмажыць чатыры амлеты. На амлеты налажыць грыбны фарш, загарнуць іх і падсмажыць.

## ЯЕШНЯ З ВАРАНАЙ КАЎБАСОЙ

На 8 яечак бярэм 200 г варанай каўбасы, 1 сталовую лыжку тлушчу, соль.

Вараную каўбасу, нарэзаную скрылёчкамі, падсмажваем на патэльні з абодвух бакоў. Пасля гэтага асцярожна выліваем на яе яечкі, але так, каб жаўткі не разліліся. Солім яешню і запякаем яе ў духоўцы.

## БЕЛАРУСКІ АМЛЕТ

На 8 яечак трэба ўзяць паўшклянкі малака, 80 г саланіны, 1 цыбуліну, соль.

Дробненька нарэзаную саланіну падсмажыць, дадаючы цыбулю. Яечкі размяшаць з малаком і пасаліць. Гэтай мяшанкай заліць саланіну, падсмажаную з цыбуляй, і запячы ў духоўцы.

**Гаспадыня**

# САРДЭЧНЫЯ ТАЙНЫ

Мілае Сэрцайка! Не ведаю, з кім раіцца, куды ісці ці ехаць, і вырашыла напісаць табе.

Калі выходзіла замуж, усё гаварыла за тое, што муж мой не будзе трымацца толькі маёй спадніцы. Быў ён нязвыкла прыстойны і не было дзяўчыны, якая б не хацела яго. Але выбраў ён мяне. Мы разам з ім вучыліся ў вышэйшай школе. І пасля заканчэння вучобы мы пажаніліся.

Які кашмар я перажыла на працягу 20 год нашага супольнага жыцця, цяжка апісаць. Мой муж жыў так, як хацеў. Хацеў — прыходзіў дахаты, хацеў — не прыходзіў. Можа, мне здавалася так, але кожную жанчыну, якую ён убачыў у сваім асяроддзі і хоць крыху яна яму спадабалася, ён хацеў мець для сябе. Між імі часамі здараліся мае сяброўкі, а нават і члены маёй найбліжэйшай сям'і. Нарадзіўся ў нас сын, якога ён вельмі кахаў, але нашыя адносіны заставаліся ранейшымі: я была жонкай, але былі яшчэ іншыя жанчыны. Трэба прызнаць, што я ўжо нават нейк асвоілася з гэткім становішчам і думала, што, відаць, ён мяне найбольш кахае, паколькі ж не кідае ні мяне, ні сына, відаць, сям'я яму ўсё ж даражэйшая. І гэтак, у сляпым маім закаханні, мінула пару дзесяткаў год. Неспадзявана ажаніўся сын, і мы ў хуткім часе сталі дзядулем і бабуляй. І вось цяпер я ад сяброўак даведалася, што ў майго мужа ўжо некалькі год ёсць іншая жанчына. Адна! І гэта мяне страшна занепакоіла. Цяпер я зразумела многія справы, якіх не разумела раней. І толькі цяпер стала шкадаваць, што апамяталася за-

(Працяг на стар. 11)

# СОННІК

—31—

**Грошы** — згуба; атрымаць — выдаткі; фальшывыя — страта спадчыны; знайсці — шчасце ў гульні; лічыць — вялікі заробак; згубіць — няўдачныя планы, намеры; пазычыць — клопаты; распускаць — ты марнатраўца, растратчык(ца).

**Грудзі** — цябе прагнуць, жадаюць; валасатыя — даход; прыгожыя — добрае здароўе.

**Грушы** есці — паслабленне, хвароба; прыгожыя бачыць — пераадоленне перашкодаў; трэсці — даб'ешся свайго; многа на дрэве — шчаслівае замужаства або жаніцьба; сакавітыя — радасць і шчасце; чарвівыя — хітрасць, ашуканства.

**Грыбы** — карысць для фальшывых сяброў; старыя грыбы збіраць — дажыць да глыбокай старасці; есці — жыць у раскошы; атрутныя — страта пасады ці гаспадаркі.

**Грымоты** — добрыя звесткі.

**Грэбень** бачыць — неахайнасць, занядбанне.

**Грэбля**, гаць — увойдзеш у новую кампанію.

**Губка** (для мыцця) — беспадстаўная радасць.

**Гузік** — благая кампанія; адарваны — клопаты і засмучэнне.

**Гук** — раптоўны страх.

**Гульні** (спартыўныя) — чакае цябе павышэнне, пашана.

**Гультай** — клопаты, засмучэнне.

**Гулянне** ў карты — смутак, клопаты; у латарэю — няпэўная прыемнасць; у іншыя гульні — непрыемныя прыгоды.

**Гумка** для выцірання — цябе хочуць засмуціць, але дарэмна.

**Гумавы** плашч (непрамакальны) — мусіш перамагчы перашкоды і цяжкасці.

**Гусар** — многа шчасця ў каханні.

# Зорка

## Старонка для дзяцей




Нядаўна яшчэ дашкольнікі, а цяпер ужо амаль першакласнікі школы ў Дубяжыне са сваёй настаўніцай Яўгеніяй Таранта.
Фота Я. Чэрнякевіч.

Трэцякласнік Ігар Каўтун часта спазняўся на ўрокі. Дакладней кажучы, на першы ўрок. Хоць на дзве-тры мінуты, але спазняўся. Часам паспяваў зайсці ў клас разам з настаўніцай, але здаралася, што ён з'яўляўся, калі ўжо яна пачынала ўрок. Нейкі момант ён вінавата глядзеў на настаўніцу, уздыхаў і толькі потым прасіў дазволу сесці.

— Сядай, Каўтун, — казала настаўніца, дадаючы: — І калі ты нарэшце перастанеш спазняцца?

— Сам не ведаю, як гэта я спазняюся, — адказваў Ігар, выклікаючы дружны смех у класе.

У той дзень Ігар не спазніўся. Праўда, ён убег у клас апошнім, але, пакуль увайшла настаўніца, ён паспеў выцягнуць з сумкі дзённік, падручнік па матэматыцы, сшытак з хатнім заданнем і расклаў іх на парце.

— Ты рашыў задачы? — нахіліўся да яго Валерка, сусед па парце, цэлы ў вяснушках, чуб — вожыкам.

— Рашыў.

Ігар адразу здагадаўся, што Валерка папросіць спісаць: ён чамусьці заўсёды не паспяваў зрабіць хатняе заданне па матэматыцы.

І не памыліўся. Сусед скрывіўся, быццам у яго балелі зубы, і зашаптаў:

— Дай хуценька перапішу, пакуль настаўніца праверыць, каго няма. Я, разумееш, не паспеў, часу не хапіла... — і пацягнуўся да Ігаравага сшытка.

Ігар не раз даваў Валерку спісваць задачы, нават падказваў на ўроках, але сёння нешта ў ім запратэставала, ён цвёрда сказаў:

— Не дам, сам рашай!

— Ну, пачакай... Выйдзеш ты на перапынак... Пагаворым, ты баязлівец няшчасны...

Ігар успыхнуў.

— А ты... а ты... гультай! Разумееш? І не палохай — не баюся! — Шчокі яго пакрыліся румянцам, а ў вачах блiснулі слёзы.

Ігара крыўдзіла слова „баязлівец", якім яго часам абзывалі аднакласнікі. А за што? Хадзілі аднойчы ўсім класам у лес на экскурсію, і па дарозе трапіўся роў з вадою. Настаўніца і дзяўчаты пайшлі да мосціка, а хлопцы, зразумела, пачалі скакаць

Іван Кірый

## „Адгукніся, хлопчык!"

праз роў. Хто пераскочыць, а хто трапіць нагою ў ваду — з таго смяяліся. Ігар таксама хацеў пераскочыць роў. Разбегся, падбег да самага краю і.. спыніўся. Яшчэ, чаго добра, уляціць у ваду, пабрудзіцца. Падумаў, і пайшоў за дзяўчатамі і настаўніцай у абыход. Вось тады нехта з хлопцаў і кінуў яму ўслед крыўднае „баязлівец"...

Настаўніца загадала ўсім супакоіцца і папрасіла ўвагі.

— Перш чым пачаць урок, — сказала яна, я прачытаю вам нататку з газеты.

Клас прыціх, падрыхтаваўся слухаць.

Настаўніца пачала чытаць нататку пад загалоўкам „Адгукніся, хлопчык!" У ёй гаварылася аб тым, што ў мінулую суботу, у палове другой пасля абеду каля парку, на сярэдзіну вуліцы, даганяючы мячык, неспадзявана выбегла маленькая дзяўчынка. Гэта здарылася так неспадзявана, што шафёр не паспеў затрымаць машыну. І ў той момант, калі, здавалася, усё, канец — да дзяўчынкі кінуўся хлопчык з сумкаю на плячах, схапіў яе за руку і разам з ёй упаў на асфальт. Машына, , востра піснуўшы тармазамі, даткнула пярэднім колам чаравік хлопчыка і спынілася.

Да перапалоханай дзяўчынкі падбегла маці, іх абступілі людзі, усіх цікавіла: што з дзяўчынкай? Потым нехта нарэшце ўспомніў аб яе выратавальніку. Пачалі шукаць хлопчыка, але ён знік.

Заканчвалася нататка тым, што бацькі маленькай Раі (так звалі дзяўчынку) сардэчна дзякавалі герою за выратаванне іх дачкі і прасілі яго праз рэдакцыю падаць свой адрас. Вось чаму нататка і была азагалоўлена „Адгукніся, хлопчык!"

Настаўніца адклала газету на стол, абвяла клас уважлівым позіркам.

— Можа, гэты адважны хлопчык сярод вас? — спытала яна. — Або, можа, вы пра яго чулі? Гэта ж здарылася недалёка ад нашай школы? Трэба памагчы Раіным бацькам знайсці яе выратавальніка.

Вучні пераглянуліся, а Валерка адказаў за ўсіх:

(Працяг на стар. 10)

Леанід Рыгаль

## Бацькоўскі кут

Люблю світанак:
Новую зару
На ганку нашым
Кожны дзень страчаю.
Бадзёрасці прыліў
Я адчуваю
Зачараваны,
Часам гавару:
„Усё цікава тут.
Усё цудоўна тут.
Усё інакш,
Не так, як было ўчора:
Адценняў —
Непаўторныя ўзоры...
Як я люблю цябе,
Бацькоўскі кут!.."

## Легенда

Усе дарогі вядуць у Рым.
З народнага.

Кажуць, што ў Рым, сталічны горад,
Усе шляхі-дарогі прывядуць.
І праз рэкі, акіяны, горы
Едуць да яго, плывуць, ідуць...

Я ж з усіх дарожак-пуцявінак
Самую кароткую знайду.
Хай сабе лясістаю сцяжынкай,
А да Рыма ўсё-такі дайду.

Рым мой — не сталіца і не горад,
А куток, што сэрцу дарагі,
Дзе высока над бацькоўскай хатай
Бусел вымалёўвае кругі.

Дзе цяплей, пяшчотней сонца грэе,
Дзе блакітней неба глыбіня,
Дзе матуля нас чакаць умее,
Ветлівей дзе нават цішыня.

Дзе маё дзяцінства, мая радасць,
Дум прытулак, мар, надзей выток.
Той куток — любоў мая і слабасць,
Тут жыцця пачаўся ручаёк.

У мой Рым лясістаю сцяжынкай
Адусюль заўсёды я прыйду.
З лабірынта вузкіх пуцявінак
Самую кароткую знайду.

## Парк

Садзіцца сонца за далёкі лес,
Паволька гоман птушак заціхае.
Шапоча нешта ля дарогі бэз
І ледзь прыкметна голькамі махае.
А вось і парк — дзядуля-велікан
З маўклівай веліччу мяне страчае.
Заблытаўся між дрэў густы туман
Ды так ад ранку і адпачывае.
Загадкавы, чароўны гэты парк,
Па-свойму неяк урачыста-ціхі,
Не адпачнеш затое тут ад мар —
Гартаю думкі,
Як старонкі кнігі.

**СЛУХАЙЦЕ І СПЯВАЙЦЕ**

Змяшчаем словы песні, якую вы пачуеце ў беларускай перадачы па Беластоцкаму радыё ў суботу 2 жніўня а 18-ай гадзіне.

# МОЙ РОДНЫ КУТ

**Словы Я. Коласа   Музыка І. Лучанка**

**Мой родны кут, як ты мне мілы!**
**Забыць цябе не маю сілы!**
**Не раз, утомлены дарогай,**
**Жыццём вясны мае убогай,**
**К табе я ў думках залятаю**
**І там душою спачываю.**

**Вось як цяпер, перада мною**
**Ўстае куточак той прыгожа,**
**Крынічкі вузенькае ложа**
**І ёлка ў пары з хваіною,**
**Абняўшысь цесна над вадою**
**Як маладыя ў час кахання,**
**Ў апошні вечар расставання.**

**Люблю цябе, мой бераг родны,**
**Дзе льецца Нёман срэбраводны,**
**Дубы, дзе дружнай чарадою**
**Стаяць, як вежы, над вадою...**
**Мой родны кут, як ты мне мілы!**
**Забыць цябе не маю сілы...**
**Забыць цябе не маю сілы...**












Таліеман.

### ЯХІДНЫ МУЖ

— Я ўжо звыш паўгадзіны вару гэтае яйцо, а яно ўсё яшчэ цвёрдае, — гаворыць пачынаючая гаспадыня мужу.

— Відаць, яго знесла надзвычай старая курыца.

### НА КОЛЬКІ ГАДОЎ?

Прыходзіць жанчына ў магазін і просіць:

— Мне, калі ласка, штаны для сына.

— На колькі гадоў? — пытае прадаўшчыца.

— Якія гады? — адказвае жанчына. — Ён іх падзярэ за месяц!

### НУ, НУ!

— Пані Зося, я закаханы ў вас да шаленства!

— Ну і ўпарты ж вы! Дык учора я вам ясна сказала: „Не і не!"

— Ах, гэта былі вы?..

### МУДРЫ ДЗЯДЗЬКА

Прыехаў студэнт на канікулы да дзядзькі.

— А чаму гэта так, дзядзька, калі я стану на галаву дагары нагамі, тады мне прылівае да галавы кроў. А чаму яна не прылівае да ног, калі я на іх стаю?.. — спытаў студэнт у дзядзькі.

— Калі б у цябе ногі былі такія пустыя, як твая галава, тады б і да іх прылівала кроў! — адказаў дзядзька.

### ЧАМУ

— Чаму ты да гэтага часу не ўстанавіў ніводнага рэкорда?

— Таму што ўсе рэкорды рана ці позна б'юць, а я не хачу быць бітым разам з рэкордамі.

**Добрая душа: апошнюю адказнасць з сябе зніме, не пашкадуе.**

### НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

— Як пішацца пісьменніцкі справаздачны даклад?

— Па камісіях, секцыях і тэлефонных ананімных званках: „Паспрабуй не ўстаў майго прозвішча".

*

На цёмнай вуліцы Сан-Францыска сустрэліся два мужчыны. Адзін з іх дастаў з кішэні нож і запатрабаваў:

— Давай грошы!

Другі выцягнуў з-пад палы сякеру і запытаў:

— Навошта яны табе?

— Хачу размяняць долар.

*

— Мне патрэбна ваша дапамога, — звяртаецца пацыент да псіхіятра.

— Ваша прафесія?

— Я псіхіятр.

— Дык чаму ж вы самі сябе не лечыце?

— Я бяру надта дорага...

### ТУГАДУМ

Мне лягчэй зрабіць
падарунак,
Чым яму — два словы
сказаць:
Не прывыкне кладоўку думак
Ён расчыненай пакідаць.

Замыкае ўвесь час —
навошта?
Праўда, ён — усё ж з галавой:
Калі скажа — паслухаць
ёсць што,
Значыць, мае хаваць што
ў ёй.

**Яўген Верабей**

*З „Весніка Задрыпоніі"*

### УСЁ ДЛЯ ХАБАРНІКАЎ

Апшчадкасы горада Б. арганізавалі новы від паслуг. Сарамлівым і грэблівым хабарнікам неабавязкова браць грошы ва ўласныя рукі. Дастаткова напісаць заяву, і супрацоўнікі апшчадкасы самі пералічаць грошы з рахунку даваценя на рахунак прымацеля.

Адначасова копія чэка накіроўваецца пракурору горада.

### ДЫЛЕМА ДАЦЭНТОВІЧА

Што рабіць, калі першае дыханне кончылася, а другое не прыходзіць?







Прынада.

## Курёзы

### АМАЛЬ АФІЦЫЙНА...

Пані Гелен Амала растлумачыла праз прэсу: „Той факт, што 34 мільёны дарослых амерыканцаў не ўмеюць чытаць, — не такая ўжо і страшная справа. Дык жа замест таго, каб чытаць кніжкі і газеты, яны могуць глядзець тэлеперадачы".

Такі аптымістычны погляд на невясёлы факт можна было б растлумачыць гэтак званай жаночай логікай. Але гэта растлумачэнне няпэўнае. Тым больш, што Гелен Амала — не радавая прадстаўніца жаночага полу, а сакратар міністэрства адукацыі Злучаных Штатаў.

### УПРАВА НА САТАНУ

Сатана, як вядома, не дрэмле — усё намагаецца захапіць у лапы свае людскую душу. Але жыхары іспанскай правінцыі Галісія маюць управу на гэту бяду: кожны год пад канец ліпеня тысячы галісійцаў, якія лічаць, што ў іх усяліўся злы дух, збіраюцца ля капліцы Багародзіцы дэ О'Карпіньйо, каб выгурыць з сябе нячыстую сілу. Для вылячэння трэба прайсці кіламетраў 20 басанож, некалькі разоў прайсці на каленях навокал капліцы, а галоўнае — штосілы лямантаваць, давесці сябе гэтым крыкам да шаленства.




**Думай, што гаворыш, калі гаворыш, што думаеш...**